Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 16 Год выдання 1-ы 31 мая 1935 г. № 16

## За большэвіцкую пастаноўку вучота тавараў ва ўсіх звеннях гандлёвай сістэмы

Растраты і хішчэнні ў магазінах і аптовых базах з'яўляюцца аднэй з асноўных прычын нерэнтабельнай работы некаторых звенняў гандлёвага апарата.

У сістэме мерапрыемстваў па барацьбе з гэтым ганебным з'явішчам вялікае мейсца павінна заняць ажыццяўленне друкуемай у гэтым нумары бюлетэня інструкцыі па перавучоту тавараў у рознічнай сеці.

Гэтай інструкцыяй уводзіцца аднолькавы і абавязковы для ўсіх гандлюючых арганізацый парадак перавучота тавараў замест існаваўшага раней разнабоя ў метадах правядзення гэтай работы.

Інструкцыяй рэгламентуюцца: а) агульнае палажэнне; б) падрыхтоўчая работа; в) парадак правядзення і афармлення перавучоту; г) формы опісаў для перавучоту і актаў на недастачы або лішкі тавараў.

Агульнае палажэнне таксама устанаўлівае тэхніку і тэрміны перавучоту па гандлёвых прадпрыемствах у залежнасці ад іх спецыфічных асаблівасцяй, паказваючы, хто ўдзельнічае і адказвае за правядзенне перавучота.

Раздзел інструкцыі ў частцы правядзення і афармлення перавучота тавараў значна ўтачняе метады, якімі неабходна карыстацца пры перавучоце (цана, тара, пераважванне грамодзкіх і малакаштоўных тавараў, дапушчэнне абмера замест узважвання і т. д.).

І, нарэшце, у 4-м раздзеле інструкцыі прыводзяцца формы опісаў перавучота і актаў аб недастачах і лішках. Гэтым уводзіцца адзіная форма складання адказнейшага дакумента, які арганізуе вучот соцыялістычнай маёмасці і характарызуе работу даннага гандлёвага прадпрыемства.

Выключнае значэнне гэтай інструкцыі абавязвае ўсіх работнікаў гандлёвай сеці вельмі сур'ёзна і ўважліва адносіцца да яе выканання, паколькі асноўны сэнс гэтай інструкцыі заключаецца ў тым, каб ускрыць расхлябанасць, безгаспадарчасць і злоўжыванні. Трэба памятаць, што пры неуважлівых адносінах да выканання гэтай інструкцыі—яна можа ператварыцца ў сваю процілегласць, г. зн. стаць абвінаваўчым актам супроць добрасумленных работнікаў. Каб гэтага не было, трэба строга прытрымлівацца п. 15-га інструкцыі, які прадугледжвае неабходнасць складаць опісі і акты „чотка, яскрава, разборчыва, без памарак і падчыстак".

У гэтым нумары бюлетэня таксама друкуюцца нормы натуральнай убылі ў рознічнай сеці, абавязковыя для ўсіх гандлюючых арганізацый і магазінаў, у якіх вядзецца пагатунковы вучот паступлення тавараў.

Для гэтай групы магазінаў Наркамунутгандль БССР устанавіў групавыя нормы натуральнай убылі тавараў. Гэтыя нормы з'яўляюцца максімальнымі і павінны прымяняцца ў строгай адпаведнасці з змяшчаемай інструкцыяй Наркамунутгандля СССР ад 28/III-35 г.

Усе гандлюючыя арганізацыі павінны паставіць сабе задачай вывучэнне і удасканаленне ўстаноўленых норм у спецыяльна вылучаных для гэтай мэты асобных тыпавых магазінах.

Рабочая грамадскасць (крамныя камісіі, профарганізацыі, актыў работнікаў прылаўка) павінна актыўна ўключыцца ў справу перавучота тавараў, а таксама арганізаваць нагляд за захаваннем устаноўленных норм натуральнай убылі.

Асазнанне ўсімі гандлюючымі арганізацыямі неабходнасці захавання ўстаноўленых норм натуральнай убылі і правільнай арганізацыі справы перавучоту тавараў забяспечыць умацаванне элементаў адказнасці і гаспадарчага разліка ў гандлёвым апараце.

## У Наркамунутгандлі БССР

29 красавіка гр. ГОРДЗІН напісаў скаргу на грубыя адносіны з боку загадчыка ларка № 72 Белплодагародніны КАТЭРМАНА. На гэтую скаргу інспектар-кантралёр Белплодагародніны ГІНЗБУРГ даў у пісьмовай форме грубы адказ, які па сутнасці носіць характар здзекі над спажыўцом.

У звязку з гэтым Наркамунутгандль прапанаваў дырэктару Белплодагародніны неадкладна зняць з работы інспектара-кантралёра ГІНЗБУРГА, прыцягнуўшы яго да судовай адказнасці і налажыць дысцыплінарнае спагнанне на загадчыка ларка КАТЭРМАНА.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Інструкцыя па перавучоту тавараў у рознічным гандлі

(Зацверджана пастановай Наркамунутгандлю Саюза ССР № 329 ад 5 мая 1935 года.)

### 1. Агульныя палажэнні.

1. Перавучот каштоўнасцей (тавараў, тары і касы) у рознічнай гандлёвай сеці праводзіцца не радзей аднаго раза ў квартал.

У харчовых магазінах, крамах і ларках перавучот праводзіцца штомесячна, прычым штомесячны перавучот каштоўнасцяй у гэтых магазінах праводзіцца без закрыцця іх на час перавучота.

Дапускаецца з дазвола вышэйстаячай арганізацыі перавучот тавараў у продмагах праводзіць адзін раз у квартал.

Для перавучоту печанага хлеба гандлюючыя арганізацыі могуць устанаўліваць больш кароткія тэрміны.

2. Перавучот наяўнасці касы і тары праводзіцца адначасова з перавучотам тавараў.

3. Кіраўніцтва правядзеннем перавучота ажыццяўляецца персанальна кіраўніком арганізацыі і галоўным (старшым) бухгальтарам.

Непасрэдна правядзеннем перавучота ў прадпрыемствах (магазіне, крамы, ларку) вытвараецца асобай, спецыяльна ўпаўнаважанай кіраўніком той арганізацыі, у склад якой гэтыя прадпрыемствы ўваходзяць.

Да непасрэднага правядзення перавучота прыцягваюцца: пры наяўнасці лавачнай камісіі—прадстаўнік яе, прадстаўнік прафсаюзнай арганізацыі і ў неабходных выпадках адпаведныя спецыялісты.

УВАГА: У кааператыўных гандлёвых прадпрыемствах, акрамя пералічаных вышэй прадстаўнікоў, да перавучоту тавараў прыцягваецца прадстаўнік кантрольнай рэвізійнай камісіі.

4. Агляд і падлік каштоўнасцяй у натуры вытвараецца пры абавязковым удзеле адказных за іх асоб, якія падпісваюць опіс разам з асобай, якая вытварае перавучот каштоўнасцяй (праверку ў натуры).

5. Зняцце астаткаў каштоўнасцяй вытвараецца ў такі час, калі аперацыі па прыёму і водпуску тавараў не праводзяцца, г. зн. гандаль у магазіне на час перавучота спыняецца.

УВАГА: 1. Тыя магазіны, у якіх перавучот вытвараецца штомесячна, на час перавучота не закрываюцца і перавучот робіцца пасля скапчэння ўстаноўленых гадзін гандлю.

2. Магазін, у якім перавучот вытвараецца адзін раз у квартал, закрываецца на час перавучота не больш як на адзін дзень.

6. Аб спыненні або скарачэнні гадзін работы з прычыны перавучота, гандлёвае прадпрыемства абавязана загадзя інфарміраваць насельніцтва.

7. У тых гандлёвых арганізацыях, дзе праверка каштоўнасцяй у час перавучота не заканчваецца ў адзін дзень, асобы, якія вытвараюць перавучот, застаўляюць памяшканне ўсе разам, памяшканне закрываецца або двумя рознымі замкамі (прычым ключ ад аднаго замка застаецца ў адказнай асобы за тавары, а ключ ад другога замка ў асобы, якая вытварае праверку), або адным замком, але адначасова памяшканне апячатваецца асобай, якая вытварае праверку і ў яе застаецца пячатка, якой памяшканне апячатана, а ключ ад замка захоўвае ў сябе матэрыяльна-адказная асоба.

8. Кіраўнікі арганізацыі абавязаны:

а) загадзя скласці план правядзення перавучота тавараў у магазінах;

б) устанавіць па кожнаму прадпрыемству, уваходзячаму ў склад арганізацыі, календарныя тэрміны пачатку і сканчэння перавучота;

в) забяспечыць своечасовае правядзенне работы па перавучоту неабходнымі тэхнічнымі прыладамі (вагі, тара, прэйскурант рознічных цэн, бланкі опісей і т. п.).

Да абавязкаў асоб, якія праводзяць перавучот каштоўнасцяй у рознічнай сеці адносяцца:

а) правільнае і поўнае зняцце фактычных астаткаў кожнага тавара, тары і каштоўнасцяй у касе;

б) праверка, у неабходных выпадках, правільнасці рознічнай цаны тавара і цаны тары, якія падлягаюць перавучоту, і злічэнне іх з адпаведнай цаной па прэйскуранту;

в) складанне опісей перавучота, з правільным і поўным запаўненнем усіх неабходных паказальнікаў, прадугледжаных у форме.

9. У опіс перавучота тавараў і тары заносяцца ўсе астаткі тавараў і тары, якія аказаліся пры праверцы ў наяўнасці з расцэнкай іх па дзейнічаючым для вучота цэнам.

10. Опісі па перавучоту падпісваюцца асобамі, якія праводзяць зняцце астаткаў каштоўнасцяй. Гэтыя асобы нясуць адказнасць за правільнасць падліку каштоўнасцяй і правільнасць занясення тавараў і тары ў опісі перавучота.

11. У опіс перавучота не заносяцца тавары і тара, якія паступаюць у час зняцця астаткаў. Гэтыя тавары і тара прымаюцца матэрыяльна-адказнымі асобамі ў прысутнасці асоб, якія праводзяць перавучот і заносяцца ў асобую ведамасць з указаннем дакументаў, даты прыёмкі і назвы пастаўшчыка, з абавязковай адзнакай і надпісам на суправаджальных дакументах аб тым, што тавар прынят у час перавучоту.

12. Тавары, якія прададзены і падрыхтаваны да адпраўкі да перавучота (на якія рахункі ўжо выпісаны і аплачаны), але якія застаўлены на часовае хаванне ў матэрыяльна-адказнай асобы, павінны быць ёю спісаны ў выдатак да пачатку перавучота па свайму таварнаму рахунку. Гэтыя тавары ўключаюцца ў асобную опіс перавучота, як тавары прададзеныя, але якія знаходзяцца на часовым хаванні ў гандлёвым прадпрыемстве.

Тавары, якія праданы і падрыхтаваны к водпуску, але не аплачаны (на якія рахункі яшчэ не выпісаны), належаць перавучоту і ўключэнню ў опіс перавучота.

УВАГА: Пункт 12-ы адносіцца да тых рознічных гандлёвых прадпрыемстваў, якім па ўмовам іх работы дазваляецца водпуск тавараў арганізацыям.

13. У выпадку паступлення тавараў да пачатку перавучота без суаправаджальных дакументаў, належыць скласці прыёмны акт з указаннем колькасці і якасці тавараў і расцаніць іх па дзейнічаючаму прэйскуранту. На падставе акта гэты тавар павінен быць запрыходаван да пачатку перавучота.

## 2. Падрыхтоўчая работа да правядзення перавучота тавараў.

14. У мэтах забеспячэння своечасовага і найбольш поўнага правядзення перавучота ў кожным гандлёвым прадпрыемстве павінна быць праведзена да перавучота падрыхтоўчая работа.

### А. У гандлёвым прадпрыемстве.

а) Тавар і тара павінны быць адпаведна рассартыраваны і падрыхтаваны для перапісу;

б) на тавар, які з прычыны псавання і інш. прышоў у поўную нягоднасць, павінны быць складзены асобыя акты для спісання ў прысутнасці прадстаўніка ці ўпаўнаважанага вышэйстаячай арганізацыі;

в) тавар, які па тым ці іншым прычынам трэба пераацаніць у бок паніжэння, па ўзгадненні пытання аб паніжанай цане з кіраўніцтвам арганізацыі, уключаецца ў опіс па паніжаным цэнам, для чаго да перавучота павінны быць складзены акты на ўцэнку гэтага тавара.

Калі паніжэнне цаны тавара вытвараецца ў час перавучота, то акты на праведзеную пераацэнку прыкладаюцца да опісаў перавучота тавараў;

г) да кожнай групы тавараў па віду і гатунку павінен быць прымацован адпаведны ярлык з дакладным абазначэннем прадажнай цаны тавара, у адпаведнасці з дзейнічаючым прэйскурантам рознічных прадажных цэн;

д) матэрыяльна-адказная асоба абавязана да перавучота тавараў поўнасцю апрыходаваць і спісаць у расход па сваёй таварнай справаздачы ўсе паступіўшыя і выбыўшыя тавары да дня перавучота.

УВАГА: Прадстаўленне матэрыяльна-адказнай асобай дакументаў на прыход ці расход тавараў пасля перавучота (не ўключаных ёю ў сваю таварную справаздачу, складзеную на дзень перавучота) павінна быць разглядаема як скрыццё недастач і лішкаў.

### Б. Па бухгальтэрыі.

а) Афармленне і правядзенне па вучоту ўсіх дакументаў на тавары і тару, якія паступілі і выбылі да перавучота;

б) афармленне і правядзенне па вучоту ўсіх дакументаў (актаў і інш.) на бой, псаванне, пераацэнку тавараў і інш. спісанні, якія мелі месца да пачатку перавучота тавараў;

в) выверка запісаў у бухгальтэрыі па ліцавому рахунку матэрыяльна-адказнай асобы з прадстаўленнем у бухгальтэрыю яе таварнай справаздачы на дзень перавучота;

г) праверка своечасовасці запрыходавання тавараў і тары ў рознічных прадпрыемствах да дня перавучота і кантроль за своечасовым спісаннем сум з рахунка „тавараў у пуці“, „тавараў па ўнутранай перакідцы“, „тавараў адгружаных“, „тавараў неаплачаных“ і іншых рахункаў баланса.

## III. Парадак правядзення і афармлення перавучота тавараў.

15. Правядзенне і афармленне перавучота тавараў і тары праводзіцца наступным чынам:

а) пры перавучоту тавараў у рознічных гандлёвых прадпрыемствах тавар правяраецца па вазе, аб'ёму і іншым адпаведным вымяральным адзінкам. У опісах перавучота паказваецца тавар па ўстаноўленаму для вучота кошту, а тара—па прэйскурантнай цане;

б) усе нераспакованыя скрынкі і т. п. з таварам, які знаходзіцца ў іх, павінны быць ускрыты і наяўнасць тавара павінна быць устаноўлена шляхам яго падліку або ўзважвання, ні ў якім разе не дапускаючы падліку толькі скрынак з аглядам на вытрымку аднэй—або некалькіх скрынак;

в) калі пры фактычнай праверцы пераважванне грамоздкіх і малакаштоўных тавараў (бульба, гародніна) паграджае псаваннем тавараў або звязана з вялікімі выдаткамі і працяглым перыядам праверкі, дапускаецца праверка шляхам абмера, з адначасовым выяўленнем якасці гэтых тавараў, што павінна быць адпаведна агаворана ў опісі перавучота.

У выпадку незначнасці разыходжанняў паміж даннымі абмера і вучотнымі даннымі,—прымаюцца апошнія, з паследуючай праверкай іх пры перабормцы, або па сканчэнні рэалізацыі тавара;

г) Опіс тавараў праводзіцца па секцыям (аддзелам), па аднародным групам і паасобным відам і гатункам; на тавары, якія прыняты для камісіённай прадажы, складаюцца паасобныя опісі перавучота;

д) у канцы опісі ўказваецца якім парадкавым нумарам заканчваецца опіс, спісы і, ў сувязі з гэтым, выпраўленні, ўнесеныя ў опіс, адпаведна агаварваюцца за подпісам асобы, якая праводзіць праверку і матэрыяльна-адказнай асобы;

е) матэрыяльна-адказная асоба ў канцы опісі перавучота (асобна па таварам, асобна па тары) падпісваецца пад наступным тэкстам:

„Увесь тавар (уся тара), які знаходзіцца на маім адказным хаванні, прад'яўлены мною для перавучота поўнасцю і ў опіс перавучота тавараў (тары) запісан у маёй асабістай прысутнасці з № 1 па №...... як у колькасці, так у меры і вазе правільна“ (подпіс матэрыяльна-адказнай асобы, з указаннем займаемай пасады;

ж) Опісі перавучота складаюцца ў двух экземплярах пад капірку чотка, ясна, разборчыва, без памарак і падчыстак, адзін экземпляр опісі ўручаецца матэрыяльна-адказнай асобе пад распіску, а другі экземпляр перадаецца ў бухгальтэрыю.

Увага: У тых выпадках, калі змена матэрыяльна-адказных асоб супадае з днём пера-

вучота тавараў, то перавучоту падлягаюць усе каштоўнасці (тавары, тара, каса, маёмасць і інш.), якія знаходзяцца ў гандлёвым прадпрыемстве, прычым опісі перавучота ў гэтым выпадку павінны быць складзены ў трох экземплярах, якія ўручаюцца: адзін экземпляр здаўшай асобе, другі экземпляр асобе, якая прыняла каштоўнасці і трэці экземпляр—бухгальтэрыі.

з) Опісі перавучота (пасля праверкі правільнасці іх бухгальтэрыяй і калькуляцыйнай часткай арганізацыі ў адносінах падліку, правільнасці прадажных цэн і інш.) злічаюцца з даннымі бухгальтарскага вучота і выводзіцца рэзультат перавучота, устанаўліваюцца лішкі або недастачы (шляхам складання асобых злічальных ведамасцей). Даныя гэтых злічальных ведамасцей заносяцца ў асобы акт перавучота (гл. пункт 16), у якім указваецца размер спісанняў на натуральную ўбыль і фактычная недастача або лішкі тавараў (тары).

Ад матэрыяльна-адказнай асобы павінны быць атрыманы тлумачэнні аб прычыне недастачы або лішка тавараў (тары);

і) бухгальтэрыя арганізацыі абавязана не пазней 5 дзён са дня сканчэння перавучота скласці злічальную ведамасць, а кіраўнік арганізацыі абавязан у трохдзённы тэрмін разглядзець рэзультат перавучота і прыняць неабходныя меры да спагнання выяўленых недастач ці апрыходвання выяўленых лішкаў з прыцягненнем вінаватых да судовай адказнасці.

## IV. Формы опісей для перавучота тавараў і актаў на недастачы і лішкі.

16. Для опісі фактычных астаткаў уласных і камісійных тавараў і тары служыць наступная форма опісі перавучота тавараў:

*Форма № 1*

### ОПІС ПЕРАВУЧОТА фактычных астаткаў тавараў (тары)

на „..................“.................. 193 г.

Прадпрыемства ..................

Адрас ..................

Матэрыяльна-адказная асоба ..................
(прозвішча і пасада)

**Час зняцця астаткаў**

*Пачата* .................. *Скончана* ..................

Прозвішча і пасада асоб, якія ўдзельнічаюць у перавучоце тавараў:

1. ..................
2. ..................
3. ..................
4. ..................

| №№ п/п | Артыкул, станд. марка або інш. адзнакі тавара | Назва тавара | Адзінка вымер. | Колькасць | Вага | | Цана за адзінку вымер. | Сума запаўняецца бухгальтэрыяй | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Бруто | Нето | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |

У адзначанай опісі артыкулаў ..................

Подпісі: а) асоб, удзельнічаючых у перавучоце тавараў і

б) матэрыяльна адказнай асобы.

17. На недастачы і лішкі тавараў (тары) складаецца акт па наступнай форме:

*Форма № 2*

### АКТ

1935 г. .................. дня ..................

..................
(назва арганізацыі ці прадпрыемства)

У складзе ..................

У прысутнасці бухгальтара ..................
вытварыла праверку запісей і дакументаў па вучоту і злічыла бухгальтарскі астатак на .................. 193 г. з фактычнай наяўнасцю тавараў на тое-ж самае число, прычым аказалася:

1. Астатак па бухгальтарскім запісам выведзен правільна і значыцца ў суме руб. ..................
2. Фактычны астатак згодна опісі руб. ..................
3. Недастача (лішак) за час загадвання матэрыяльна-адказнай асобы тав. .................. выражаецца ў суме руб. .................. і складае .................. % к абароту.
4. З азначанай сумы спісана натуральнай убылі ў размеры .......... % з рознічнай прадажы тавара за час з .................. 193 г. па .................. 193 г. на руб. .................. што складае руб. ..................
5. Недастача звыш нормы, якая падлягае спагнанню руб. .................. (пропісам) складае к абароту .......... %

Подпісі асоб, удзельнічаючых у перавучоце

Бухгальтар (подпіс)

Адрас матэрыяльна адказнай асобы ..................
.................. Акт складаецца ў 3-х экземплярах.

Тлумачэнне матэрыяльна-адказнай асобы па сутнасці недастач / лішкаў ..................

(подпіс матэрыяльна-адказнай асобы)

УВАГА: 1. Акт на недастачы і лішкі складаецца ў трох экземплярах: адзін экземпляр акта з заключэннем кіраўніка прадпрыемства застаецца ў справах бухгальтэрыі, другі—ўручаецца матэрыяльна-адказнай асобе, трэці экземпляр—у выпадку прыцягнення да судовай адказнасці апошняй—перадаецца судоваследчым органам.

Усе ўказаныя акты падпісваюцца асобамі, якія ўдзельнічалі ў яго складанні, а таксама матэрыяльна-адказнай асобай. У выпадку адмовы матэрыяльна-адказнай асобы ад пісьмовага тлумачэння і подпісу акта, аб гэтым у акце робіцца спецыяльная агаворка.

2. Акты складаюцца асобна на лішкі і асобна на недастачы тавараў, прычым пры патаварным вучоце ў акце ўказваецца кожны тавар у паасобку.

3. На недастачы і лішкі па касе і тары складаюцца паасобныя акты.

# Аб нормах натуральнай убылі тавараў у рознічным гандлі

## ПАСТАНОВА

## Народнага Камісарыята Унутранага Гандля Саюза ССР

28 Сакавіка 1935 г. **№ 183** г. Масква.

У мэтах нармалізацыі натуральнай убылі тавараў у рознічным гандлі зацвердзіць наступныя гранічныя патаварныя нормы:

| Назва тавараў | У % к абароту | | | Тэрмін хавания ў днях не больш | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Летам | Сярэдне гадавы | Зімой | Летам | Гадавы | Зімой |
| **I. Хлебныя тавары.** | | | | | | |
| 1. Хлеб весавы розны | — | 0,75 | — | — | 24 гадз. | — |
| 2. Баранкі розныя | — | 0,50 | — | — | 3 дн. | — |
| 3. Мука розная акрамя бульбянай | — | 0,50 | — | — | 15 д. | — |
| 4. Крупа розная (у тым ліку рыс) | — | 0,50 | — | — | 15 | — |
| 5. Пшаніца, жыта, авёс, ячмень і грачыха | — | 0,50 | — | — | 25 | — |
| 6. Фасоль і гарох у зярне | — | 0,60 | — | — | 25 | — |
| **II. Мяса і мясатавары.** | | | | | | |
| 7. Мяса-гавядзіна марожан. | — | 1,65 | — | 3 | — | 10 |
| 8. Мяса-гавядз. ахладжон. і парная | 2,00 | — | 1,65 | 2 | — | 10 |
| 9. Целяціна ахладжоная і парная | 2,00 | — | 1,65 | 2 | — | 10 |
| 10. Бараніна марожаная | — | 1,25 | — | 3 | — | 10 |
| 11. Бараніна ахладжоная і парная | — | 1,50 | — | 2 | — | 10 |
| 12. Свініна марож. і ахладж. (парная) | — | 1,25 | — | 2 | — | 10 |
| 13. Саланіна з мяса буйнай рагатай жывёлы | — | 1,50 | — | 5 | — | 15 |
| 14. Свініна салёная | — | 1,25 | — | 5 | — | 15 |
| 15. Птушка бітая марожаная і астужаная | — | 0,75 | — | 3 | — | 10 |
| 16. Субпрадукты: | | | | | | |
| а) пячонка | — | 3,50 | — | 2 | — | 5 |
| б) лёгкае, рубец, кніжкі, летошкі і сычугі | — | 2,50 | — | 2 | — | 5 |
| в) почкі, мазгі, сэрца, вымя, семянікі | — | 2,00 | — | 2 | — | 5 |
| г) галава | — | 2,00 | — | 2 | — | 5 |
| д) ногі | — | 0,50 | — | 2 | — | 5 |
| 17. Каўбасныя вырабы: | | | | | | |
| а) вараная | — | 1,65 | — | 2 | — | 5 |
| б) ліверная | — | 1,80 | — | 2 | — | 5 |
| в) сасіскі | — | 2,00 | — | 2 | — | 5 |
| г) паўкапчоная | — | 1,25 | — | 3 | — | 10 |
| д) капчоная | — | 0,80 | — | 3 | — | 10 |
| 18. Свінакапчоная (окарак, грудзінка, карэйка і рулет) | — | 1,00 | — | 2 | — | 10 |
| 19. Таксама—вараныя | — | 1,50 | — | 2 | — | 7 |
| 20. Сала—шпіг | — | 0,75 | — | 5 | — | 15 |
| 21. Сала таплёнае харчовае | — | 0,60 | — | 3 | — | 10 |
| **III. Рыба і рыбтавары.** | | | | | | |
| 22. а) Рыба парная розная | 1,50 | — | — | 2 | — | — |
| б) рыба марожаная: | | | | | | |
| Беларыбіца | 1,00 | — | 0,75 | 3 | — | 15 |
| Ласасав. і чырвоная | 1,50 | — | 1,00 | 3 | — | 15 |
| Часціковая | 1,25 | — | 0,75 | 2 | — | 15 |
| Навага | — | 0,75 | — | 3 | — | 15 |
| 23. Рыба салёная | | | | | | |
| а) чырвоная (белуга, сеўруга, асетр і інш.) | — | 0,75 | — | 5 | — | 15 |
| б) часціковая | 1,00 | — | 0,75 | 5 | — | 15 |
| в) сельдзь розная | 0,75 | — | 0,60 | 5 | — | 15 |
| г) сёмга салёная | 1,25 | — | 1,00 | 3 | — | 15 |
| д) лосось маласольны | 1,50 | — | 1,25 | 3 | — | 15 |
| 24. Рыба сушона-вялен. | — | 0,50 | — | 5 | — | 15 |
| 25. Снеткі суха-салёныя | 0,75 | — | 0,40 | 5 | — | 15 |
| 26. Балык осетровы | 0,75 | — | 0,60 | 5 | — | 15 |
| 27. Балык беларыбі | 1,00 | — | 0,75 | 5 | — | 15 |
| 28. Тэшы | 1,25 | — | 1,00 | 5 | — | 15 |

| Назва тавараў | У % к абароту | | | Тэрмін хавання ў днях не больш | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Летам | Сярэдня гадавы | Зімой | Летам | Гадавы | Зімой |
| 29. Рыба паравая капчоная: | | | | | | |
| а) чырвоная . . . . . . . . . | — | 1,00 | — | 3 | — | 15 |
| б) сельдзь мурманск. . . . . . . | — | 2,50 | — | 3 | — | 15 |
| 30. Рыба халодн. капчэння: | | | | | | |
| а) часціковая . . . . . . . . . . | — | 0,50 | — | 5 | — | 15 |
| б) сельдзь розная . . . . . . . | — | 0,75 | — | 7 | — | 15 |
| 31. Ікра: | | | | | | |
| а) зерністая і паюсная . . . . . . | 0,75 | — | 0,50 | 5 | — | 15 |
| б) кетавая . . . . . . . . . . . | — | 0,60 | — | 5 | — | 15 |
| в) часціковая . . . . . . . . . | — | 0,50 | — | 5 | — | 15 |
| 32. Марынад рыбны весавы . . . . . | — | 0,75 | — | 5 | — | 15 |
| **IV. Плодагародніна.** | | | | | | |
| а) плады і ягады свеж.: | | | | | | |
| 33. Вінаград розны . . . . . . . . . | — | 4,00 | — | 2 | — | 7 |
| 34. Ягады розныя: | | | | | | |
| а) клубніка, земляніка, маліна . . . . | 4,00 | — | — | 1 | — | — |
| б) ежавіка, смародзіна і інш. . . . . | 4,00 | — | — | 2 | — | — |
| 35. Костачкавыя плады: (вішня, чарэшня, слівы, абрыкосы, персікі і інш.) . . . . . . . . . . . . . | 2,00 | — | — | 2 | — | — |
| 36. Семячковыя: (яблакі, грушы, айва, мушмала, хурма і інш) . . . . . . . . | — | 1,50 | — | — | 8 | — |
| 37. Бахчавыя (дыня) . . . . . . . . | — | 3,00 | — | — | 5 | — |
| 38. Плады і ягады салёныя і мачоныя . . . | — | 1,50 | — | — | 20 | — |
| 39. Цітрусовыя: апельсіны . . . . . . | — | 1,00 | — | — | — | — |
| Мандарыны. . . . . . . . . . | — | 1,50 | — | — | 5 | — |
| 40. Арэхі ўселякія і міндаль . . . . . . | — | 0,50 | — | — | 20 | — |
| 41. Ядро арэхавае . . . . . . . . . | — | 0,75 | — | — | 25 | — |
| 42. Сухафрукты (у тым ліку вінаград сушаны, карынка) . . . . . . . . . . . | — | 0,60 | — | — | 20 | — |
| б) Гародніна і зелень. | | | | | | |
| 43. Зелень свежая . . . . . . . . . | 5,00 | — | — | 2 | — | — |
| 44. Капуста свежая асенне-зімняя . . . . | — | 1,80 | — | — | 10 | — |
| 45. Капуста ранняя свежая . . . . . . | 3,00 | — | — | 3 | — | — |
| 46. Памідоры свежыя . . . . . . . . | 4,00 | — | — | 5 | — | — |
| 47. Гуркі свежыя . . . . . . . . . . | — | 2,00 | — | 3 | — | — |
| 48 Пладовая гародніна (баклажаны, перац, арбуз, тыква, кабачкі свежыя) . . . . | 1,50 | — | — | 3 | — | — |
| 49. Цыбуля рэпчатая і часнок . . . . . | — | 0,75 | — | — | 10 | — |
| 50 Бульба маладая свежая . . . . . . | 2,00 | — | — | 3 | — | — |
| 51. Бульба спелая, позняя, свежая . . . . | — | 0,50 | — | — | 5 | — |
| 52. Кораньплоды (морква, бруква, буракі, белыя кораньплоды і інш) . . . . . . | — | 1,50 | — | — | 10 | — |
| 53. Гародніна і зелень сушаныя . . . . | — | 0,60 | — | — | 20 | — |
| 54. Гарошак сушаны зялёны . . . . . | — | 0,70 | — | — | 20 | — |
| 55. Гародніна мачоная, салёная, квашаная (у тым ліку капуста) . . . . . . . . | — | 1,50 | — | — | 15 | — |
| 56. Тамат-пюрэ (у бочцы) . . . . . . . | — | 1,00 | — | — | 10 | — |
| 57. Грыбы салёныя, адвараныя і марынованыя | — | 1,25 | — | — | 15 | — |
| 58. Грыбы сухія . . . . . . . . . . | — | 0,50 | — | — | 20 | — |
| **V. Бакалейныя тавары** | | | | | | |
| 59. Мёд развесны . . . . . . . . . | — | 1,00 | — | — | 20 | — |
| 60. Варэнне развясное з бочкі . . . . . | — | 1,00 | — | — | 20 | — |
| 61. Вермішэль, макароны і лапша . . . . | — | 0,60 | — | — | 15 | — |
| 62. Бульбяная мука . . . . . . . . . | — | 1,00 | — | — | 15 | — |
| 63. Патака ў бочках . . . . . . . . | — | 1,00 | — | — | 20 | — |
| 64. Цукар пясок . . . . . . . . . . | — | 0,40 | — | — | 20 | — |
| 65. Цукар-рафінад і колаты . . . . . . | — | 0,40 | — | — | 20 | — |
| 66. Цукерная пудра . . . . . . . . . | — | 0,70 | — | — | 20 | — |
| 67. Гарчыца весавая . . . . . . . . | — | 0,50 | — | — | 25 | — |
| 68. Какао весавое . . . . . . . . . | — | 0,50 | — | — | 25 | — |
| 69. Кофе ў зярне . . . . . . . . . | — | 0,50 | — | — | 25 | — |
| 70. Карынка і карыца весав. . . . . . | — | 0,50 | — | — | 25 | — |
| 71. Лаўровы ліст . . . . . . . . . | — | 0,50 | — | — | 25 | — |
| 72. Мак . . . . . . . . . . . . . | — | 0,75 | — | — | 25 | — |
| 73. Перац весавы . . . . . . . . . | — | 0,80 | — | — | 25 | — |
| 74. Сода ачышчан. крыстал. . . . . . . | — | 0,75 | — | — | 25 | — |
| 75 Повал і отрубі . . . . . . . . . | — | 0,75 | — | — | 25 | — |
| 76. Жмыхі . . . . . . . . . . . . | — | 0,75 | — | — | 25 | — |
| 77. Гваздзіка весавая . . . . . . . . | — | 0,80 | — | — | 25 | — |
| 78. Солод . . . . . . . . . . . . | — | 0,75 | — | — | 25 | — |

| Назва тавараў | У % к абароту | | | Тэрмін хавання ў днях не больш | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Летам | Сярэдне гадавы | Зімой | Летам | Гадавы | Зімой |
| 79. Соль | — | 1,50 | — | — | 25 | — |
| 80. Мыла гаспадарчае цвёрдае весавое | — | 1,00 | — | — | 10 | — |
| 81. Мыла вадкае | — | 1,00 | — | — | 10 | — |
| 82. Газа ў драўлян. тары | — | 1,00 | — | — | 10 | — |
| 83. Газа ў жалез. тары | — | 0,30 | — | — | 30 | — |
| **VI. Малочна-жыравыя тавары** | | | | | | |
| 84. Тварог | — | 2,00 | — | 2 | — | 5 |
| 85. Сметана | — | 1,00 | — | 2 | — | 5 |
| 86. Сырковая маса | — | 1,50 | — | 2 | — | 5 |
| 87. Масла слівачнае | — | 0,60 | — | 3 | — | 10 |
| 88. Масла таплёнае | — | 0,60 | — | 3 | — | 10 |
| 89. Сыр галандскі | — | 1,20 | — | 5 | — | 10 |
| 90. Сыр Бакштэйн | — | 1,20 | — | 5 | — | 10 |
| 91. Сыр руска-швейцарскі | — | 1,50 | — | 7 | — | 15 |
| 92. Сыр чэдэр | — | 1,20 | — | 5 | — | 10 |
| 93. Маргарын | — | 0,75 | — | 2 | — | 10 |
| 94. Масла раслінае | — | 0,50 | — | — | 20 | — |
| **VII. Кандзіцерскія тавары** | | | | | | |
| 95. Цукеркі: | | | | | | |
| мяккія, мармелад развесны, пасціла, падушачкі абсыпныя | — | 0,90 | — | — | 15 | — |
| 96. Карамель развесная | — | 0,40 | — | — | 20 | — |
| 97. Монпасье | — | 0,40 | — | — | 20 | — |
| 98. Пячэнне весавое | — | 0,70 | — | — | 20 | — |
| 99. Сухары | — | 0,50 | — | — | 20 | — |
| 100. Пранікі | — | 1,00 | — | — | 15 | — |
| 101. Халва | — | 1,25 | — | — | 15 | — |
| 102. Цукаты | — | 0,75 | — | — | 15 | — |
| 103. Павідла | — | 1,00 | — | — | 15 | — |

2. Увесці зацверджаныя нормы з 1 красавіка 1935 г.

3. Устанаўліваемыя гэтай пастановай нормы даюцца ў пакрыццё наступных відаў убылі:

а) усушкі (улетучванне, выпарэнне, вымаражванне) тавараў;

б) выветрывання тавараў;

в) уцечкі (прасасываемасць, таянне);

г) раструскі, распыла;

д) разліва;

е) раскрошкі і драблення;

ж) упітвання ў тару і прымаза;

з) розніцы ў вазе пры водпуску аб'ёмаў вадкасцей рознай плотнасці (у залежнасці ад кліматычных умоў);

і) правеса і прамера;

к) страты тавараў ад грызуноў і шкоднікаў.

УВАГА: Брак, псаванне, бой, лом, усякага рода зачысткі ў указаныя нормы натуральнай убылі не ўваходзяць і падлягаюць дадатковаму спісанню па зацверджаных актах, у адпаведнасці з іх сапраўднымі размерамі. У кожным паасобным такім выпадку гандлюючыя арганізацыі вызначаюць, за кошт каго павінна быць аднесена спісанне, прычым, калі якія-небудзь з указанных страт адбыліся па віне той ці іншай асобы гандлёвага апарата, то гэтыя страты павінны быць аднесены за яе рахунак.

4. Для магазінаў, у якіх не вядзецца вучот пагатунковага паступлення тавараў, краявыя і абласныя аддзелы ўнутранага гандля, а таксама Наркамунутгандлі саюзных і аўтаномных рэспублік, якія не маюць краявога (абласнога) дзялення, устанаўліваюць, разам з гандлюючымі арганізацыямі, на падставе патаварных норм натуральнай убылі, зацверджаных гэтай пастановай, групавыя нормы дапасавана к асартыменту магазінаў.

5. Улічваючы асобыя кліматычныя ўмовы, якія маюць уплыў на размер натуральнай убылі тавараў, прапанаваць Наркамунутгандлям і крайунутгандлям наступных рэспублік і краёў: Закаўказскай СФСР, Узбекскай ССР, Туркменскай ССР, Таджыкскай ССР, Казакскай АССР, Крымскай АССР, ДВК, Паўночнага края на аснове гэтай пастановы распрацаваць для сваіх рэспублік і абласцей патаварныя нормы натуральнай убылі ў розанічным гандлі і прадставіць не пазней 10 красавіка 1935 г. на зацверджанне Наркамунутгандля СССР.

6. Усе дзейнічаючыя да гэтага часу нормы натуральнай убылі тавараў у рознічным гандлі адмяняюцца.

7. Даручыць аддзелу правіл і норм гандлю распрацаваць інструкцыю па прымяненню зацверджаных норм натуральнай убылі ў рознічным гандлі і прадставіць мне на зацверджанне не пазней 1-га красавіка г. г.

Народны Камісар Унутранага
Гандля СССР **ВЕЙЦЭР**

# ПАСТАНОВА

## Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

17 мая 1935 г. **№ 234.** г. Менск.

У адпаведнасці з п. 4 пастановы Саюзнаркамунутгандля ад 28 сакавіка 1935 г. № 183 аб нормах натуральнай убылі для рознічнай гандлёвай сеткі, якая не вядзе пагатункавага вучота паступлення тавараў,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя нормы натуральнай убылі тавараў у рознічным гандлі для ўсёй гандлюючай сеці, у якой не вядзецца пагатунковы вучот паступлення тавараў:

| Назва таварных груп і асартымент | Сярэдні гадавы % да зварота | Тэрмін хавання ў днях не больш | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Летам | Сярэдня-гадавы | Зімой |
| а) Мяса, мясатавары і каўбасныя вырабы . . . . . . | 1,25 | 3 | — | 10 |
| б) Мясныя субпрадукты (пячонка, лёгкае, рубец, летошкі, сячугі, почкі, мазгі, сэрца, вымя, галава і ногі . . . . . | 2,00 | 2 | — | 5 |
| в) Рыба і рыбтавары, акрамя кансерваў . . . . . . . | 0,75 | 3 | — | 15 |
| г) Плодагародніна . . . . . | 1,00 | — | 5—20 | — |
| д) Бакалейныя тавары (мёд вес., варэнне вес., бульбяная мука, патака ў бочках, гарчыца вес., кофе зернавое, карыца вес., лаўровы ліст, перац вес., сода ачышчаная, отрубі, жмыхі, гваздзіка вес., салат, мыла гаспадарчае цвёрдае, жыдкае, цукар-пясок, рафінад, макароны, вермішэль і соль) . . . | 0,60 | — | 20—25 | — |
| е) Малочна-жыравыя тавары. . | 0.65 | — | 5—10 | — |
| ж) Кандзіцерскія тавары . . . | 0,75 | — | 20 | — |

2. Устаноўленыя п. 1 гэтай пастановы гранічныя нормы натуральнай убылі прымяняюцца на ўвесь праданы тавар з 1-га красавіка 1935 г.

3. Устанавіць, што дзейнічаючыя нормы натуральнай убылі, устаноўленыя пастановай Наркамснаба БССР № 14 ад 29 лютага 1932 г.—гэтай пастановай адмяняюцца.

4. Устанавіць, што гандлёвая рознічная сетка, якая вядзе пагатунковы вучот паступлення тавараў, прымяняе ўстаноўленыя патаварныя нормы ўбылі пастановай Наркамунутгандля СССР № 183 ад 28 сакавіка 1935 г.

5. Нормы ўбылі і тэрміны хавання тавараў прымяняць па асобным перыядам года, для летняга перыяда—з 1 мая па 1-га кастрычніка, для зімовага перыяда—з 1 кастрычніка па 1 мая.

6. Да ўдасканалення ўстаноўленых норм убылі Белхарчгандлю вылучыць у Менску тры разнародных магазіна і Белкаапсаюзу—два магазіна, за якімі ўстанавіць на працягу ўсяго года нагляд і вывучэнне норм натуральнай убылі, з прымяненнем вымяральных прыбораў (тэрмометраў і інш.). Матэрыялы па нагляданню штомесячна па кожнаму магазіну дасылаць Наркамунутгандлю БССР. Да кожнага вылучанага магазіна прымацаваць адказных асоб з апарата Менхарчгандля і Менгорспажыўсаюза, на якіх ускласці адказнасць за пастаноўку справы нагляда і вывучэння норм убылі ў вылучаных магазінах.

7. У адносінах норм убылі для сеці, у якой вядзецца выключна сумавая справаздачнасць, кіраўнікі гандлюючых арганізацый абавязаны да 1-га чэрвеня прадставіць у Наркамунутгандль праекты ўбылі для зацвярджання.

Нам. Наркома Унутранага гандля БССР
**І. Верба**

---

ЗАЦВЯРДЖАЮ

Народны Камісар Унутранага Гандля Саюза ССР
**ВЕЙЦЭР**

28.III—1935 г.

# ІНСТРУКЦЫЯ

## па прымяненню ў рознічным гандлі норм натуральнай убылі тавараў, зацверджаных пастановай Наркамунутгандля Саюза ССР

*ад 28 сакавіка 1935 года за № 183.*

1. Зацверджаныя нормы натуральнай убылі распаўсюджваюцца на ўвесь рознічны таваразварот.

2. Нормы натуральнай убылі ўводзяцца з 1-га красавіка 1935 г. на тавары, прададзеныя з 1 красавіка г. г. Калі зняцце астаткаў праводзілася пасля 1 красавіка г. г., але тавары прададзены да 1 красавіка гэтага года, то на гэтыя тавары павінны прымяняцца нормы, якія дзейнічалі да 1 красавіка г. г.

3. Нормы натуральнай убылі ўстанаўліваюцца ў відзе пэўнага процанта скідкі з рознічнага зварота адпаведных тавараў.

УВАГА: У абарот не ўключаецца:

а) перакідка тавараў у іншыя магазіны і склады;

б) зварот тавара пастаўшчыкам і складу;

в) аптовы водпуск тавараў;

г) убыль тавараў за час дастаўкі іх у магазіны;

д) тавары, якія спісаны па актам з прычыны псавання, брака, лома, боя і т. п.

е) адыходы тавараў, атрымліваемыя пры падрыхтоўцы іх да продажы і пры непасрэдным водпуску пакупніку, улічваемыя асобна (па актах, або ўстаноўленых нормах);

ж) завесы тары (драўлянай і мяшочнай).

4. К таварам штучным і таварам, якія паступаюць у магазін у расфасаваным відзе, нормы натуральнай убылі не прымяняюцца.

На тавары, фасуемыя ў магазіне, распаўсюджваюцца ўстаноўленыя нормы.

5. Нормы натуральнай убылі прымянюцца толькі з моманта паступлення тавараў у магазін.

6. Зацверджаныя нормы натуральнай убылі з'яўляюцца гранічнымі і прымяняюцца толькі ў тым выпадку, калі пасля праверкі фактычнай колькасці тавара акажацца недахоп іх супроць кніжных астаткаў.

Папярэдняе спісанне ўбылі па ўстаноўленых нормах не дапускаецца.

Зняцце фактычных астаткаў тавараў павінна праводзіцца штомесячна. Дні перавучота ў паасобных магазінах устанаўліваюцца вышэйстаячай гандлёвай арганізацыяй.

Перавучот тавараў праводзіцца згодна інструкцыі Наркамунутгандля СССР па перавучоту тавараў у рознічным гандлі.

7. У выпадку выяўлення, пры перавучоту ці рэвізіі таварных лішкаў, апошнія павінны быць запрыходаваны па актах і высветлены прычыны наяўнасці лішкаў.

Пры выяўленні ў час перавучота або рэвізіі недастачы тавараў складаецца акт. Убыль па размерах, якая перавышае ўстаноўленыя нормы, фіксуецца паасобным актам. У тых выпадках, калі вышэйстаячай гандлёвай арганізацыяй не будзе устаноўлена асобных прычын, якія дзейнічаюць на размер натуральнай убылі ў бок павышэння, вінаватыя нясуць адказнасць ва ўстаноўленым парадку. Спісанне ў расход натуральнай ўбылі ў межах устаноўленых норм праводзіцца толькі па зацверджанні актаў адпаведнай вышэйстаячай гандлёвай арганізацыяй.

8. Ва ўстаноўленыя нормы натуральнай убылі ў рознічным гандлі ўваходзіць убыль:

а) пры хаванні тавараў у магазіне;

б) пры падрыхтоўцы ў магазіне тавара к водпуску; драбленне тавара, расфасоўка;

в) пры водпуску тавара непасрэдна пакупніку.

9. Размер убылі тавараў вылічаецца шляхам памнажэння колькасці тавараў праданага за справаздачны перыяд на ўстаноўлены процант убылі.

10. У залежнасці ад кліматычных умоў пачатак зімовага ці летняга перыяда ўстанаўліваюць краявыя і абласныя аддзелы ўнутранага гандля, а таксама Наркамунутгандлі саюзных і аўтаномных рэспублік, якія не маюць краявых (абласных) дзяленняў разам з гандлюючымі арганізацыямі.

11. Мясцовыя органы Наркамунутгандля і гандлюючыя арганізацыі не маюць права змяняць устаноўленыя нормы. Усе прапановы аб змяненні зацверджаных норм ці ўстанаўленні норм натуральнай убылі на тавары, не ўключаныя ў пастанову Наркамунутгандля СССР ад 28 сакавіка 1935 года за №183, прадстаўляюцца ў Наркамунутгандаль Саюза ССР.

12. Для магазінаў, у якіх не вядзецца пагатунковы вучот тавараў, краявыя і абласныя аддзелы ўнутранага гандля, а таксама Наркамунутгандлі саюзных і аўтаномных рэспублік, якія не маюць краявога (абласнога) дзялення,—устанаўліваюць разам з гандлючымі арганізацыямі, на аснове зацверджаных норм натуральнай убылі тавараў—групавыя нормы дапасавана да асартымента тавараў магазінаў, а для магазінаў, якія маюць толькі сумавы вучот—у цэлым па гандлёвай адзінцы.

13. Гандлюючыя арганізацыі ў месячны тэрмін з моманта апублікавання новых норм, павінны перазаключыць свае дагавары з падсправаздачнымі асобамі з вучотам гэтых норм.

# ЦЭНЫ

## Новыя паніжаныя рознічныя цэны на масла

### Загад па Наркамунутгандлю БССР

17 мая 1935 г. **№ 173.** г. Менск.

На падставе распараджэння Саюзнаркамунутгандля ад 15 мая 1935 года за №-7/30 аб устанаўленні новых прадажных рознічных цэн на масла жывотнае адкрытай прадажы—загадваю:

1. Устанавіць з 20 мая 1935 года прадажную рознічную цану на масла жывотнае адкрытай прадажы (у рублях за кілаграм):

| | Вышэйшы сорт. | Першы сорт. |
|---|---|---|
| а) сладка-слівачнае . . . | 27 | 24 |
| б) кісла-слівачнае . . . | 24 | 21 |
| в) таплёнае . . . . . . | 25 | 22 |

2. Зняцце астаткаў жывотнага масла ў магазінах адкрытай прадажы правесці на 20 мая 1935 г. Акты павінны быць заверавы па дзяржгандлю—загадчыкамі магазінаў і прадстаўніком дырэкцыі торга, Гастранома, Союзмаслапрома.

3. Аб парадку аднясення розніцы ад пераацэнкі ва ўсіх звеннях тавараправодзячай сеці і ўстанаўлення размеру скідкі будзе паведамлена дадаткова.

Нам. Наркома Унутранага
Гандля БССР **І. Верба**

## Цана марожанага, прадаваемага праз буфеты

### Загад па Наркамунутгандлю БССР

14 мая 1935 г. **№ 170** г. Менск.

У дадатак да загадаў № 138 ад 20 красавіка 1935 г. і № 160 ад 29 красавіка 1935 г. аб устанаўленні адпускных і рознічных цэн на марожанае — загадваю:

1. Устанавіць прадажную цану на марожанае выпрацоўкі Белкаапмалако і Белхарчпромсаюза, прадаваемае праз буфеты пры відовішчных прадпрыемствах (тэатры, клубы, кіно), а таксама праз буфеты адчыненых сталовых на 50 кап. даражэй за кілаграм чым з ларкоў, латкоў і магазінаў — 8 р. за кгр.

2. Цана на выпрацоўваемае марожанае сталовымі і рэстаранамі ўстанаўліваецца самімі сталовымі, як на іншую кухонную прадукцыю і парцыённыя блюда.

Нам. Наркамунутгандля БССР **І. Верба**

## Папраўка

У гандлёвым Бюлетэні № 13 ад 29 красавіка г. г. на стар. 4-й у прэйскуранце рознічных цэн на ніткі цана на ніткі сагрэб цветныя ў ярдавой намотцы трох слажэнняў, даўжына намоткі 2500 м. памылкова надрукавана 126 руб. за сотню катушак.

Павінна быць—426 руб.

## Рознічная цана гаспадарчага мыла сельскага фонда

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

17 мая 1935 г. **№ 172** г. Менск

На падставе пастановы Наркамунутгандля СССР № 340 ад 9 мая 1935 года загадваю:

1. Устанавіць на 72 проц. гаспадарчае мыла, рэалізуемае па сельскаму фонду, рознічную цану ў размеры 6 р. за кгр.

2. Розніца ад пераацэнкі гаспадарчага 72 проц. мыла сельскага фонда ва ўсіх аптовых звеннях і рознічнай сеці, належыць унясенню ў дзяржбюджэт.

3. Пераацэнку правесці на аснове складання актаў на дзень устанаўлення новай цаны, завераемых: заг. магазінаў і прадстаўнікам торга па дзяржгандлю, па спажывецкай кааперацыі — заг. магазінам і членам рэвіз. камісіі, па ОРС'ам—заг. магазінам і прадстаўнікам рабочага кантроля прадпрыемства.

4. Захаваць гандлёвую скідку па гаспадарчаму мылу 72-працантнаму ў размеры, устаноўленым па камерцыйнаму фонду—24 кап. за кгр.

5. Устанавіць на пакрыццё выдаткаў гандлюючых арганізацый, звязаных з гуждастаўкай мыла на адлегласці звыш 7 клм. ад чыгуначных станцый і водных прыстаней—наступныя гужавыя надбаўкі да ўстаноўленай п. I рознічнай цаны: ад 7 да 30 клм.—5 кап. на кгр., ад 31—да 60 клм.—7 кап. на кгр. і ад 61 да 100 клм.—10 кап. на кгр.

Нам. Наркамунутгандля БССР І. Верба

## ДАДАТКІ № 6 1 7

### да ўніфіцыраванага прэйскуранта на новыя гатункі трынатажных вырабаў камерцыйнага фонда

| №№ артык. | Назва вырабаў | Размер і камерцыйн. цана у руб. і кап. за штуку. |
|---|---|---|
| 287 | Футболка без шнура з полурукавамі, з мал. маш. к/б. № 32 . | 2 / 4—60; 3 / 5—20; 4 / 5—80; 5 / 6—40; 6 / 7 |
| 359 | Блуза віскозная спартыўная з полурукавамі, мал. маш. 26 кл. віскоза—260 д. . . . . . | 34—36 / 21; 38—40 / 21; 48—52 / 25 |
| 634 | Кашнэ віскознае з разрысоўкай з мал. маш. 26 кл., віскоза 260 д. | 18 |
| 201 | Фуфайка мужчынская х/б трошч. пражы № 32, МТ-1 26 кл. маш. | 3 / 7—25; 4 / 8—25; 5 / 9—25; 6 / 10—25 |
| 982 | Сарафан віскозны дзіцячы мал. маш. 26 кл. віскоза 260 д. . . | 34—36 / 12—25 |
| 326 | Жылет х/б. 24/2 з віскозн. 260 д. рашэльны. . . . . . . . | 44—46 / 30; 48—52 / 32 |
| 362 | Жылет х/б. 32/2 в віскознай 260 д. фангов. маш. 14 кл. . . . . | 42 / 28; 44—46 / 37; 48—52 / 38 |
| 363 | Джэмпер віскозны з жабо абаротн. маш . . . . . . . | 42 / 40; 44—46 / 50; 48—52 / 50 |
| 927 | Касцюм жаночы х/б. 24/2 к. гладк. раш. палатна 24 кл. фас. 52-а з 2 гузікамі ў варата . . | 42 / 30; 44—46 / 35; 48—42 / 38 |
| 937 | Плацьё дзіцячае шэрсцян. 24/2 абаротн. машын. 8—9 кл. . . | 2 / 28; 3 / 30 |

За вышыўку ручным спосабам робіцца надбаўка да камерцыйных цэн:

а) на дзіцячыя вырабы—2 р. 75 к. за штуку,

б) на вырабы для дарослых—6 р. 50 к. „



Выданне Наркамунутгандлю БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Д. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 625. Тыраж 2300 экз. Галоўлітбел № 2882.